1-3.5-8
082158

Цана асобнага [illegible] гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЬЦЯГ ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр., на 3 мес. — 4 зл., на паўгоду — 8 зл., на год — 15 зл., заграніцу ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

№ 1 — Вільня, Серада 4-га ліпня 1928 г. — Год 1

## Перад скрыняй будучыні.

Апошнія падзеі ўнутранага жыцьця Польскай Рэспублікі сваею нязвычайнасьцю цікавяць і хвалююць усіх, хто мае да іх тое ці іншае дачыненьне.

Ня так даўна Сойм прыскораным тэмпам, прыпамінаючым запраўды якуюсь малацьбу, закончыў разгляд бюджэту. Некаторыя адхілкі ў прыняцьці урадавых прапазіцыяў, здавалася, прымусяць Урад выкарыстаць Сэнат, дзе ёсьць, як вядома, урадавая большасьць, каб паставіць усё на сваім. Але тут сталася зноў штось надзвычайнае: Сэнацкая „адзінка“ „ня хоча марнаваць часу“ і ўносіць прапазіцыю аб прыняцьці бюджэту такім, якім ён выйшаў з Сойму. Сьледам за гэтым бачым нічым, здавалася, неапраўданы роспуск абедзьвюх палатаў на летнія вакацыі, ня гледзячы на тое, што асталося прыняць шмат важных спраў навет з пункту гледжаньня Ураду, як закон аб чыншавікох і іншыя, ня кажучы ўжо аб такіх справах, як выбары камісіі на спраўджэньню выбарных надужыцьцяў. Сойм і Сэнат на вакацыях-аж „do odwołania“.

Аднак, неспадзяванкі на гэтым ня кончыліся. Гэта хутчэй было толькі папярэдняй грой перад неспадзяванкамі іншага роду. Урад Пілсудскага ўсьлед за ўсім папярэднім сам сябе таксама... распусьціў на вакацыі, бо запраўды нічым іншым, як роспускам, ня можна назваць апошнай г. зв. „дымісіі“ Ураду.

Толькі прывычка ўсіх, хто апынуўся ў Польшчы, нічаму ня дзівіцца, што робіцца, прывычка разглядаць усё з пункту гледжаньня, што нічога горшага ня будзе, а што робіцца, то ўсё раўно робіцца бяз нас — гэтая прывычка грамадзкай бязьдзейнасьці, ці атрофіі, пераходзячай ў фаталізм—і тут падзеяла ў сэньсе якогась „пакорнага супакою“. Усе бачылі „Урад сільнай рукі“, які не дазволіць праявіць вонкава свае чуцьці, які робіць толькі тое, што яму трэба, а што яму трэба—ўрэшце перастала нібы ўсіх і цікавіць. Горшага ня будзе!—вось словы звычайнага абывацеля Польшчы. Усё палітычнае жыцьцё пахавалася і ідзе сваім парадкам без яскравага вонкавага праяўленьня, але бязумоўнага ідзе, калі „не бяжыць“.

Запраўды ўсё ў подзіве ад апошніх здарэньняў і знутры робіць свае справы. На вонак—„усё спакойна“.

Але ці запраўды „навярху“ ўсё спакойна—вось пытаньне.

Некаторыя выясьненьні з гэтага боку мы бачым у экспозэ дымісуючага Маршалка Пілсудскага, у выведзе, які ён даў прэсе, а таксама ў характары і тоне г. зв. санацыйнай прэсы. Калі пакінуць на боку ўсе паасобныя пункты экспозэ, як пункты прычыны „дымісіі“, аб чым можна даведацца ніжэй і калі, як кажуць, усё рэасумаваць, прылажыўшы разам пісаніну санацыйнай прэсы—дык можна ў кароткіх словах акрэсьліць прычыну „дымісіі“, як... змучанасьць кіраўнікоў жыцьця цяперашняй Польшчы існуючай канстытуцыяй. Сойм, хоць пакорны, як авечка, канстытуцыя — хоць такая, як ёсьць — вось выказаныя афіцыяльна і ўкосна вытлумачаныя ў прэсе—прычыны ўсіх такі падзеяў апошніх дзён. Мы скажам—колізія, супярэчнасьць між пісанай канстытуцыяй і практыкай жыцьця—вось прычына ўсіх „роспускаў“ і „водпускаў“.

Творыцца нешта новае, чаму мы будзем пэўна-ж сьведкамі. Можна думаць, што раптоўны перарыў палітычнага жыцьця, раптоўны супакой, ёсьць вядомы супакой перад бурай, г. ё. перад падзеямі, які разрубаюць вузел вышэй успомненых супярэчнасьцяў. „Гаварылкі“ пазакрываліся, каб адкрыцца ў новых абставінах. Якія гэта будуць абставіны—пакажа ня вельмі ўжо далёкая будучыня.

Як аднясьціся да ўсяго працоўным гушчам? А вельмі проста. „Голы разбою не баіцца“—кажа пагаворка. Скрыня будучыні нам ня страшна. „Што-бы ні здарылася — вытрываем“ — кажа другая пагаворка. І ня толькі вытрываем, а і пасілімся. Неспадзяванкі і буры нас толькі загартоўваюць, сілай рэчаў нас злучаюць, консолідуюць, што раз больш адкрываюць вочы, што творцы нашага лёсу — толькі мы самі. Што робіцца па-за намі—урэшце-рэшт робіцца і на нашу карысьць, бо скрыня будучыні—у канчальным падрахунку—усё-ж за намі.

## Амэрыканскі праект „вечнага міру“.

26/6 пасол Амэрык. Штатаў у Варшаве даручыў мін. Залескаму ноту Амэрыканскага ўраду ў справе так званага „трактату вечнага міру“,—з прапазіцыяй Польшчы далучыцца да супольнага трактату. Такія прапазіцыі ў разны час ужо зроблены Амэрыкай ўсім вялікім дзяржавам, а з невялікіх, апрача Польшчы,—Чэха-Славакіі, Бэльгіі і ўсім домініям Брытанскай Імпэрыі. Трактат такога зьместу:—Прадстаўнікі пералічаных дзяржаваў—у глыбокім пачуцьці высокага абавязку дзеяньня на карысьць людзкасьці ды ў перакананьні, што надыйшла ўжо пара шчыра вырачыся вайны, як прыладу нацыянальнай палітыкі—ў мэтах увекавечаньня мірных і прыязных стасункаў паміж іхніх (?) народаў; далей—ў перакананьні, што ўсялякія зьмены ў іх узаемных стасунках павінны быць пашуківаны толькі на шляхох мірных, а кожнай дзяржаве, якая, належучы да гэтага пакту, спрабуе тасаваць вайну дзеля дасягненьня сваіх нацыянальных мэтаў, павінна адмовіць усякіх карысьцяў, выплываючых з гэтага пакту; дый ў надзеі, што заахвочаныя іх прыкладам усе іншыя дзяржавы сьвету далучацца да гэтага высілку чалавецтва; даўшы гэткім чынам усім сваім народам дабрадзействы гэтага трактату, злучаючы такім чынам усе цывілізаваныя народы ўсяго сьвету ў супольным вырачэньні вайны, як прыладу дзяржаўнай палітыкі, —пастанавілі заключыць гэты трактат—праз сваіх паўнамоцнікаў—(пералічаны каралі і прэзыдэнты розных дзяржаваў) — на наступных падставах“...

Далей ідуць тры найважнейшыя артыкулы трактату, з якіх першы кажа аб вырачэньні вайны, як прыладу дзяржаўнай палітыкі, другі кажа аб абавязку вырашэньня ўсялякіх канфліктаў паміж дзяржавамі—бяз вынятку — шляхом мірavым, і ніколі інакш; трэці пункт кажа аб абавязку безадкладна ратыфікацыі трактату парлямантамі і аб тым, што далучэньне да трактату будзе адкрыта для ўсіх дзяржаваў; далейшыя §§ датычуць парадку ратыфікацыі.

З гэтага тэксту відаць, што Амэрыка не згадзілася на тыя засьцярогі ды папраўкі, якія зрабіў да праекту Кэлога францускі ўрад. Амэрыка згадзілася толькі на тое, каб засьцярогі адносна захаваньня ў сіле для сябраў Лігі Нацыяў іх абавязкаў былі абгавораны ў пратаколе, далучаным да трактату, але ня ў самым тэксьце трактату. Апошняя тэлеграма кажа, што Кэлог меў важную гутарку з францускім паслом у Вашынгтоне Клёдэлем. Пасьля гутаркі ані амэрыканскі міністар, ані францускі пасол не далі ніякіх высьвятленьняў журналістам. Клёдэль заявіў толькі, што выбіраецца ў найбліжэйшым часе ўва Францыю. Кэлог заявіў, што—ня выбіраецца ехаць у Францыю дзеля падпісаньня трактату. Ці можна на падставе гэтых вестак лічыць, што паміж Амэрыкай і Францыяй ў справе трактату аб вырачэньні ўсялякай вайны наступіла паразуменьне, не бяромся судзіць. Як ведама, Брыян не згаджаецца на тое, каб выключыць паміж дзяржавамі ўсялякую вайну, дамагаючыся захаваньня права на абаронную вайну. Але Кэлог стаіць на сваім, даводзячы даволі слушна, што — пасьля выбуху вайны заўсёды можна тлумачыць яе—„няўхільнасьцяй абароны“, дый што пасьля знайсьці запраўднага віноўніка вайны немагчыма зусім. Аднак-жа — навет, калі дапусьціць, што праект амэрыканскага міністра будзе прыняты ўсімі дзяржавамі, дык і тады ня трэба пераважлічваць яго значэньне. Як паведамлялі газэты, у тэксьце ці ў пратаколе трактату будзе такі кароценькі §: „нарушэньне трактату аднэй з дзяржаваў зараз-жа звальняе ўсе другія ад абавязкаў трактату“. Калі гэта—праўда, дык — няведама, ці пражыве гэты трактат больш году—навет пасьля падпісаньня яго ўсімі дзяржавамі, што—вельмі сумлiўна. Як мы памятаем, уся замежная радыкальная прэса аднеслася да „гуманнай думкі“ амэрыканскай буйнай буржуазіі вельмі скептычна: праект Кэлога разглядаўся толькі, як „шляхотны ход“ — у выбарнай кампаніі амэрыканскай рэспубліканскай партыі ў набліжаючыхся прэзыдэнцкіх выбарах...

## Працэс Белар. Сялян.-Работн. Грамады.

**Прамова апл. Марціноўскага.** Маю споўніць абавязак, наложаны на мяне судом. Прыступіў я да абароны бяз сугэстыі. Кожны выраз акту абвінавачваньня гэтай вялізарнай справы, бо ёсьць яна напраўды вялізарнай, падрабязна бадаў. Калі падсудныя, якіх я бараню, ня будуць зусуджаны, то будзе гэта не мая заслуга, а судовага праводу і браку віны. Далей п. аплік. зьбівае закіды пракрораў, скіраваныя проці падсудных, якіх бароніць і канчае:

П. прак. жадае вельмі суровай кары і то апіраючыся на арт. 102. П. прак. гавора нам аб тым, што робіцца па другой старане. Па другой старане ёсьць кара сьмерці. Але там няма крыжа на стале, а толькі чырвоная пяціканечная зьвязда. Матэрыял акту абвінавачваньня ня толькі не апраўдывае суровай кары, але і не апраўдвае сказаньня з арт. 102.

**Прамова сэн. Крыжаноўскага.** На ўступе мэц. Крыжаноўскі таксама зьбівае закіды прак. Раўзага, якія тлумачыць неталеранцыйным, варожым настроем прак. адносна іншых вызнаньняў. Далей мэц. Крыжаноўскі абшырна абгаварвае дзеяльнасьць Белар. Банку ў Вільні і дзеяльнасьць сьвяшч. Каўша. Уся гэтая справа, як-бы яе п. судзьдзі не асудзілі, мае свой пачатак у пакаёвых пэртрактацыях у Рызе. Былі ў Рызе тады Ластоўскі і Цьвяткоў, якія прасілі польскую дэлегацыю, каб яна дамагалася далучэньня Менска да Польшчы. Важнасьці далучэньня ўсей Беларусі да Польшчы не разумеў тады, а напэўна не разумее і сёньня Дэмбскі. Ст. Грабскі можа і разумеў, але падобная канцэпцыя не дагаджала яго паглядам палітычным.

**Рэпліка прак. Калапскага.** Прак. Калапскі, аднак, дамагаецца застасаваньня арт. 102 част. II. У гэтай справе і прастуе тэзы абароны адносна некаторых абвінавачваных.

**Рэпліка ппрак. Раўзага.** Ппрак. Раўзэ рэплікуе ў даволі доўгай прамове. Абгаварвае паасобныя закіды абароны, сіліцца зьбіць закіды, зробленыя сьведкам, як Гурыну, Бабічу і іншым канфідэнтам. Зьвяртае ўвагу на атаку Грамады проці ўраду марш. Пілсудскага, аб якім гаворыць, як аб вялікім і сільным чалавеку. Выступае проці „urabianiu opinji“ на шпальтах „Kurjera Wileńskiego“ праз Ляўковіча, якога ставіць побач сказанага павадыра банды дывэрсыйнай Сымона Рудога, прыгаворанага к сьмерці за ўдзел у акцыі дывэрсыйнай. Разам з Рудым Васіліса Камар, Ляўковіч, абв. Бурсэвіч і абв. Рак-Міхайлоўскі (?!) належалі да ЦККПЗБ. Цьвердзіць, што Грамада нічога ня мела супольнага з белар. адраджэнскім рухам.

**Рэпліка мэц. Сьмяроўскага.** Без спэцыяльнай ахвоты—гавора мэц. Сьмяроўскі — прыступаю да адказу, п. пракуратары. Маім зданьнем рэпліка ёсьць мамэнтам непатрэбным і шкодным. У гэтакі спосаб вялізарнае змаганьне зьмяняецца на малую патычку. Рэпліку падыймае той, хто слабы, каму залежыць, каб у вапошняй хвіліне выйграць. Я-ж зьяўляюся такім аптымістам, што сцьвярджаю, што пракуратарскі ўрад гэтую справу прайграе. Абвінавачваньне ў сваім першым стане ўпала. Склады аружжа ня сцьверджаны. Няздатныя карабіны да страляньня не заступяць складаў аружжа. Ніякая філёзофія, ані схалястыка ня здолела ўдаводніць, што хаця і ня знойдзена аружжа, то аднак маглі быць яго склады.

Ніводзін з трох філяраў ня можа перакванаць суд. Гурын ёсьць здраднікам і рэнэгатам. І што дзіўнейшае, што ён меўся ведаць аб усіх патаемнасьцях канспірацыйнай работы. Гэта нонсэнс. Навет самая думка аб пісанай умове ёсьць безсэнсоўнай. Што гэта? Дзяржава з дзяржавай вяла пэртрактацыю? Каго гэтая ўмова абавязвала? Насуваецца мне тут адна рэфлексыя. Дзяржава ў стасунку да адзінкі і зьяўляецца вельмі і вельмі моцнай; адзінка ў стасунку да дзяржавы вельмі слабая. Калі дзяржава захоча здушыць адзінку, заўсёды можа гэта зрабіць. І тады чалавек зьвяртаецца да суду, які ёсьць інстытуцыяй панад-дзяржаўнай.

**Рэпліка ген. Бабянскага.** Ген. Бабянскі падчырківае, што Грамада мела характар нарадовы і складалася з элемэнту беларускага. Грамада была варожа настроена ў стасунку да дывэрсыі і прычынілася да пацыфікацыі стасункаў на землях Беларусі.

**Рэпліка праф. Пятрусэвіча.** Саля паседжаньняў ня ёсьць мейсцам для разгляданьня палітычных праблемаў, але ў справе, як гэтая, маючай характар палітычны, ня можна памінуць гэтае квэстыі. Гэта, што п. п. пракуроры адступілі ад канклюзій акту абвінавачваньня і заступілі яго іншай канцэпцыяй, зьяўляецца скандалам; чы „prestige“ паньствовы выйграў на тым, што выносіцца на форум міжнародны нібы-то маючыся быць выбух паўстаньня ў 1927 г., тым балей, што гэта ёсьць рэч, якая не адпавядае праўдзе. Будзем шчырымі. Каб мы сёньня пертрактавалі з іншымі дзяржавамі ў справе пазычкі, ці гэты працэс ня стаў-бы нам на перашкодзе?

З майго боку гледжаньня, гэты працэс ёсьць вельмі шкодным для інтэрэсаў Польскае Дзяржавы.

**Рэпліка адв. Гонігвіля.** Зрабіў мне закід прак. Раўзэ, што я паходжу з афінскай школы сафістаў. Аднак, мушу сцьвердзіць, што абарона ніколі не паслугоўвалася сафізматамі. Можна мыліцца; прадстаўнікі ж пракурорскага ўраду паслугоўваліся сафізмамі вельмі часта. Далей адв. Гонігвіль гаворыць аб паказаньнях сьв. Гурына і Бабіча і канчае наступнымі словамі: „некалькі разоў быў я асабіста інтэрпэляваны праз п. пракуратара. У сярэдніх вякох быў інстытут супольнай прысягі. П. пракуратар жадае, каб і я прысягнуў. Згаджаюся і сцьвярджаю, што Бурсэвіч ніколі да камуністычнай партыі не належаў.

**Рэпліка адв. Эттінгера.** Палеміка, што да вялікасьці працэсу зьяўляецца, непатрэбнай. Не працэс, але акт абвінавачваньня, ёсьць збудаваны, як для якога працэсу малага, дзе ходзіць аб якіх 2 бут. гарэлкі, або пачку сахарыны. Гістарычныя апавяданьні п. прак. ня сьведчаць аб мэтодзе гістарычнай, застасаванай у гэтым працэсе. Можа гэта мэтода пана Заглобы, на якога паклікаўся п. пракуратар Раўзэ. Калі гаворыцца, што ёсьць язык тутэйшы тут, дзе першы раз убачыў дзеннае сьвятло статут літоўскі, пісаны ў языку беларускім, дзе да сёньняшняга дня захаваліся дакумэнты Батарага, пісаныя пабеларуску—то гэта ня ёсьць мэтода гістарычная.

П. судзьдзі. Прашу не абвіняць падсудных, якія з'арганізавалі беларускі народ, у тым, што яны з'арганізавалі сьпісак.

Старш. Аўсянка асьвядчае, што прамовы старон закончыліся і дае апошняе слова абвінавачаным.

### Апошняе слова падсудн. Тарашкевіча.

Першым забірае голас фігуруючы на першым мейсцы акту абвінавачаньня Тарашкевіч, гаворыць пабеларуску.

### Водгукі недалёкай мінуўшчыны.

Памятнага зімовага дня, калі ішоў я за трумнай прэзыдэнта Нарутовіча, стаўляў сабе пытаньне: куды ты, ідзеш Польшча?! Гэта быў вельмі трагічны момант і то ня толькі для Польшчы, але і для нас беларускіх і ўкраінскіх паслоў. Тым балей, што так здарылася, што я асабіста пераконваючы беларускіх і ўкраінскіх паслоў да галасаваньня на прэзыдэнта Нарутовіча, прычыніўся да Яго выбару.

39206

